● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● кошт 3000 рублёў

6 кастрычніка 1998 г. аўторак № 199 (23550)

# ЗВЯЗДА

## ПАСТАЎКІ МАСЛА Ў ГАНДАЛЬ ІСТОТНА ПАВЯЛІЧВАЮЦЦА

**На паліцах сталічных магазінаў чарговы дэфіцыт — масла. Прынамсі, такое ўражанне складваецца, калі глядзіш, як гэтую прадукцыю «змятаюць» доўгія чэргі не толькі ў дзяржгандлі, але і на Камароўцы. Хаця ўжо неаднойчы паведамлялася, што перабояў у забеспячэнні насельніцтва маслам узнікнуць не павінна — створаны добрыя запасы. Відаць, не апошнюю ролю тут адыгрывае цана на гэтую прадукцыю, якая пакуль застаецца адносна невялікай. І ўсё роўна зразумець «навалу» цяжка, хаця б з матэрыяльнага боку. «Хапун» на харчаванне доўжыцца ўжо даўно, цэны на яго апошнім часам значна ўзраслі, прынамсі, на імпарт, а грошы ж людзі атрымліваюць на рабоце толькі цяпер. Выходзіць, многія не так бедна жывуць, як падаецца?.. Ці ёсць іншыя прычыны?**

Як запэўніў першы намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення спажывецкага рынку Мінгарвыканкама Васіль Главацкі, ажыятажны попыт на масла нічым не абгрунтаваны. Два халадакамбінаты выконваюць усе планавыя пастаўкі ў гандлёвую сетку гэтай прадукцыі; ёсць адпаведныя фонды масла.

Больш таго, як дадаў дырэктар халадакамбіната № 2 Леанід Паўлавец, калі да гэтага ў гандаль штодзённа накіроўвалася ў сярэднім 15 тон масла, дык з 6 кастрычніка гэтая лічба павялічана яшчэ на 5 тон кожны дзень. «Відаць, тое ж зробіць і першы халадакамбінат. Зрэшты, гандаль дае заяўкі нават на 100 тон масла ў дзень, — гаворыць Леанід Пятровіч, — але ёсць месячны план. Калі ласка, мы можам даць у дзень і 100 тон, але чым яны потым гандляваць будуць у канцы месяца?» Толькі адзін халадакамбінат № 2 можа накіроўваць у гандаль штомесяц да 500 тон масла, і яго запасаў хопіць, каб «пратрымацца» паўгода. Тое ж датычыць і халадакамбіната № 1. На другім на міжсезонны перыяд назапашана 3 тысячы тон масла, на першым — 2,5 тысчы тон. «Ніколі такіх вялікіх запасаў не стваралі, — кажа Леанід Паўлавец. — Тых жа сыроў у нас зараз маецца тысяча тон, хаця звычайна лічба складае 500—600 тон».

Увогуле, як зазначыў дырэктар халадакамбіната, рэалізацыя ў гандлёвую сетку харчавання апошнім часам павялічылася. За 9 месяцаў гэтага года іх было пастаўлена ў гандаль 180 працэнтаў да аналагічнага перыяду мінулага. На думку Леаніда Пятровіча, гэта сведчыць аб тым, што харчаванне па-ранейшаму вывозяць за межы краіны. «Калі рэальнае спажыванне масла складае 14—15 тон у дзень, куды пойдуць яшчэ 5 тон?»

Рознічная цана кілаграма масла ў дзяржгандлі складае зараз каля 115 тысяч рублёў. Вядома, на фоне алею па цане больш за 200 тысяч за бутэльку — гэта танна. Ці азначае гэта, што цана на масла хутка можа змяніцца?

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Авіятрагедыя паблізу Шры-Ланкі: ніводная з беларускіх афіцыйных структур пакуль не пацвердзіла прыналежнасць самалёта Беларусі

**«Звязда» працягвае сваё расследаванне, звязанае з інфармацыяй адносна таго, нібыта паблізу Шры-Ланкі знойдзены рэшткі самалёта, які, як меркуецца, належаў Беларусі. Упершыню гэтыя і іншыя звесткі аб магчымай катастрофе агучылі расійскія сродкі масавай інфармацыі, нашай газеце пэўныя з іх у канцы мінулага тыдня былі ўскосна пацверджаны ў Міністэрстве замежных спраў і Дзяржкамітэце па авіяцыі. Зрэшты, у гэтай гісторыі з самалётам па ранейшаму шмат цёмных «плямаў».**

На сённяшні дзень больш-менш упэўнена можна гаварыць толькі аб тым, што АН-24 (калі гаворка ідзе аб ім) належаў гомельскаму авіяатраду, прынамсі, гэта быў адзін з тых двух, што ўжо больш года знаходзяцца ў Рэспубліцы Шры-Ланка. Гэта з неахвотай пацвердзіў карэспандэнту «Звязды» начальнік лётна-тэхнічнага комплексу Мікалай Чарнякоў. Самалёты працуюць у далёкай краіне па кантракту, там знаходзяцца два экіпажы агульнай колькасцю 8 чалавек і тэхнічны персанал, «колькасць якога мяняецца ў залежнасці ад патрэб». Ніякіх афіцыйных паведамленняў, па словах Мікалая Чарнякова, у гомельскім авіяатрадзе адносна магчымай катастрофы аднаго з беларускіх самалётаў не атрымлівалі. Таму цяжка пакуль адназначна сказаць, паўторымся, ці ідзе ўвогуле гаворка пра адное і тое ж паветранае судна: АН-24 і тое, чые рэшткі былі (ці былі на самай справе?) знойдзены.

Прыкладна такога ж меркавання прытрымліваюцца і ў Дзяржкамітэце па авіяцыі, прынамсі, да атрымання нейкай дадатковай інфармацыі на гэты конт. Сапраўды, з АН-24, які належыць гомельскаму авіяатраду, падчас выканання аднаго з мясцовых рэйсаў прапала сувязь. «Гэта не азначае, што гаворку абавязкова трэба весці пра катастрофу. Магчыма, самалёт зрабіў вымушаную пасадку, такія выпадкі здараюцца. У джунглях зараз цёпла, адкрытых узброеных сутыкненняў з удзелам «тыграў вызвалення» ў гэтай частцы Шры-Ланкі няма». Таму пакуль АН-24 у Дзяржкамітэце па авіяцыі лічаць толькі прапаўшым без вестак. Тым не менш, у Шры-Ланку вылецела камісія ад Міжурадавага авіяцыйнага камітэта, у састаў якой увайшлі прадстаўнікі ад Расіі і Беларусі (у прыватнасці, ад «Гомельавія» і Дзяржкамітэта па авіяцыі). 5 кастрычніка яны павінны былі вылецець з Масквы.

У Міністэрстве замежных спраў таксама прытрымліваюцца версіі, што самалёт прапаў без вестак. «Трэба яшчэ дэталёва высветліць, што за рэшткі самалёта былі знойдзены». Атрыманне аператыўнай інфармацыі са Шры-Ланкі ўскладняецца тым, што свайго пасольства там у Беларусі няма, бліжэйшае знаходзіцца ў Індыі. «Давядзецца скарыстаць дапамогу расійскага пасольства ў Рэспубліцы Шры-Ланка».

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## У СТАЛІЦЫ ЎКЛЮЧАЮЦЬ АЦЯПЛЕННЕ

**З сённяшняга дня ў Мінску пачалі падключаць да ацяплення жылыя памяшканні. Адпаведнае рашэнне на гэты конт прыняў у панядзелак раніцай Мінгарвыканкам, паведаміў карэспандэнту «Звязды» начальнік аддзела энергетыкі і паліўных рэсурсаў выканкама Уладзімір ДАЦЭНКА.**

Па словах Уладзіміра Рыгоравіча, на гэты час ужо павінна было закончыцца падключэнне да ацяплення дзіцячых садоў, бальніц, школьных устаноў. Цяпло ў кватэрах гараджан, згодна з графікам падключэння, павінна з'явіцца на працягу чатырох сутак — недзе раней, недзе пазней. Пасля гэтага падыдзе чарга адміністрацыйных будынкаў і прамысловых памяшканняў.

Як сказаў Уладзімір Дацэнка, адпаведная тэлефанаграма адносна пачатку ацяпляльнага сезона ў сталіцы ўжо ў 12 гадзін 5 кастрычніка павінна была быць ва ўсіх ацяпляльных арганізацыях. На пытанне, ці будзе адключана ацяпленне, калі адбудзецца пацяпленне надвор'я, а сіноптыкі абяцаюць яго недзе з 8 кастрычніка, Уладзімір Рыгоравіч адказаў адмоўна.

Не асабліва спадзяюцца на дакладнасць прагнозаў сіноптыкаў і ў мінскіх камунцепласетках, куды «Звязда» звярнулася таксама. «Яны абяцалі замаразкі ў канцы верасня да мінус пятнаццаці градусаў, а было толькі тры градусы марозу». Хаця на момант гутаркі тут яшчэ не атрымалі рашэння Мінгарвыканкама аб пачатку ацяпляльнага сезона. Дарэчы, на думку спецыялістаў, не ўсе аб'екты ў сталіцы, у тым ліку дзіцячыя садкі і прамысловыя прадпрыемствы, гатовы да ацяпляльнага сезона.

Можна меркаваць, што колькасць аб'ектаў, у якіх не падрыхтаваны пашпарты гатоўнасці, вагаецца ў мяжах 5 — 8 працэнтаў, зазначылі ў мінскіх камунцеплаcетках. Іншымі словамі, на гэтых аб'ектах не падрыхтаваны трубы, з-за чаго ўжо Мінскія цеплавыя сеткі гублялі шмат гарачай вады. Калі гэта сапраўды так, калі для іх пачнецца ацяпляльны сезон?

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## Ці знойдзецца левы крайні?

Блуканні па пакутах мінскага гандбольнага клуба СКА закончыліся. У мінулую суботу наша каманда ўсё ж такі здолела трапіць у Бялград на матч 1/16 фіналу Кубка чэмпіёнаў з мясцовай «Црвенай Звездай», хоць і прайграла апошняй — 22:30.

Нагадаем, што ў мінулую пятніцу армейцы ў 10.30 раніцы вылецелі ў Югаславію на ваенным транспартным самалёце, аднак, даляцеўшы да Львова, даведаліся, што венгерскі бок не дае дазвол на пралёт над іх тэрыторыяй.

— Усе былі ў разгубленасці, — расказаў учора карэспандэнту «Звязды» аб інцыдэнце старшыня спарткамітэта Узброеных Сіл Беларусі Павел Галкін, які быў відавочцам той гісторыі. — Мы каля чатырох гадзін «боўталіся» ў паветры і, як тыя буслы, кружылі над Львовам. У рэшце рэшт, былі вымушаны ляцець дадому, на аэрадром у Мачулішчы, дзе гандбалісты адпачывалі. Недзе каля шасці гадзін вяліся перамовы на ўзроўні міністэрстваў замежных спраў аб тым, каб каманда ўсё ж такі трапіла ў Югаславію, і ўрэшце было вырашана ляцець у той жа дзень у Бялград у 8 гадзін вечара праз Румынію. Венгрыя так і не дала дазвол на пралёт.

**Алесь СІВЫ.**

## ПАВЕДАМЛЕННЕ прэс-службы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь

5 кастрычніка 1998 года адбылася сустрэча Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі са старшынёй Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь Р.А. Васілевічам. Старшыня Канстытуцыйнага суда Рэспублікі Беларусь праінфармаваў кіраўніка дзяржавы аб дзейнасці Канстытуцыйнага суда ў сучасны перыяд. Р.А. Васілевіч выказаў прапановы па далейшаму ўзмацненню абароны асноўных правоў і свабод кожнага чалавека і грамадзяніна. Было адзначана, што суб'екты, названыя ў артыкулах 112 (агульныя і гаспадарчыя суды) і 116 (урад, палаты парламента, Вярхоўны суд, Вышэйшы гаспадарчы суд) Канстытуцыі, не прымаюць усіх неабходных мераў па забеспячэнню непасрэднага дзеяння канстытуцыйных нормаў, у тым ліку праз выкарыстанне магчымасцяў Канстытуцыйнага суда па ліквідацыі супярэчнасцяў паміж нарматыўнымі актамі і Асноўным законам краіны, асабліва калі гэта датычыць прававога статусу асобы. Закраналася таксама праблема ліквідацыі супярэчнасцяў і недасканаласці асобных палажэнняў дзеючага заканадаўства шляхам унясення ў яго змяненняў і дапаўненняў.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнка падтрымаў у гэтым пазіцыю старшыні Канстытуцыйнага суда.

Кіраўнік дзяржавы падкрэсліў, што прыярытэтам у дзейнасці ўсіх дзяржаўных органаў павінна быць выкананне імі сваіх абавязкаў па строгаму забеспячэнню правоў і свабод грамадзян.

**Кіраўнік прэс-службы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь У.СКВАРЦОЎ.**

*«ВЫЯЗНАЯ ПРЫЁМНАЯ»*

## ПАМІЖ БАЛОТ БЕЛАРУСКАЙ ЗЯМЛІ

### Лунінеччына: партрэт у інтэр'еры статыстыкі

Пасля Слуцка, Ашмян і Расон шлях чарговай «выязной прыёмнай» «Звязды» ляжаў на поўдзень, на Палессе, а калі дакладней — на Лунінеччыну. Раён быў абраны для новага даследавання газеты не выпадкова.

Па-першае, у Брэсцкую вобласць «выязная прыёмная» яшчэ не наведвалася. Па-другое, Лунінецкі раён знаходзіцца не толькі на мяжы Брэсцкай, Мінскай і Гомельскай абласцей, але і ўскосна мяжуе з Украінай. Гэтая геаграфічная асаблівасць накладвае моцны адбітак на лад жыцця, псіхалогію і нават на мову мясцовых жыхароў, што робіць раён адрозным ад іншых рэгіёнаў Беларусі. Але ў той жа час Лунінеччына з'яўляецца характэрным палескім краем. Гэта па-трэцяе. Ну, і нарэшце, Лунінецкі раён — адзін з тых, якія найбольш пацярпелі ад чарнобыльскай бяды. Тут знаходзяцца зоны з пастаянным і перыядычным радыяцыйным кантролем і адначасова ёсць адносна чыстыя тэрыторыі, існуюць адселеныя вёскі і пасёлкі для перасяленцаў з забруджаных раёнаў. Словам, беручы з сабой у камандзіроўку спецыяліста з Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, мы разлічвалі, што да яго будзе вельмі шмат пытанняў, — і не памыліліся. Чарнобыльская бяда — адна з галоўных, якая азмрочвае жыццё палешукоў і якая стала падставай для сур'ёзнай трывогі ў раёне. Але падрабязна пра гэта ў іншых матэрыялах «Звязды».

Зараз жа мы паспрабуем расказаць пра сённяшні дзень Лунінеччыны, намаляваць сацыяльна-эканамічны партрэт гэтага своеасаблівага раёна беларускай дзяржавы.

Так, паводле апошніх статыстычных даных, у раёне пражываюць каля 83 тысяч чалавек, з якіх 52 працэнты — вясковае насельніцтва. Па стану на жнівень гэтага года ў розных галінах гаспадаркі працавалі 28.619 чалавек, што складае каля 36 працэнтаў ад колькасці ўсіх жыхароў раёна. Такім чынам, амаль дзве трэці насельніцтва — гэта пенсіянеры, інваліды і дзеці. Існуе таксама нязначная колькасць беспрацоўных.

**(Заканчэнне на 4-й стар.)**

## Сувязям — мацнець

У мінулую суботу ў Гомелі, які мае статус цэнтра міжрэгіянальных сувязяў Расіі, Украіны і Беларусі, завяршылася сустрэча кіраўнікоў 72 беларускіх і расійскіх гарадоў. Яна была арганізавана Міжнароднай і Беларускай асацыяцыямі пародненых гарадоў і Гомельскім гарвыканкамам. У рабоце форуму, якому свае прывітанні прыслалі прэзідэнт нашай краіны Аляксандр Лукашэнка і мэр Масквы Юрый Лужкоў, удзельнічалі прэм'ер-міністр РБ Сяргей Лінг, які выступіў з прамовай, паўнамоцны прадстаўнік прэзідэнта РБ у Саюзе Беларусі і Расіі Васіль Далгалёў, міністр па справах СНД Валянцін Вялічка.

Паміж 50 гарадамі Беларусі і Расіі і былі падпісаны пагадненні аб такім супрацоўніцтве, якое з'яўляецца першым крокам да ўстанаўлення пабрацімскіх сувязяў.

На сустрэчы была створана рабочая група па адсочванню дагавораў на чале са старшынёй Беларускай асацыяцыі пародненых гарадоў Уладзімірам Ярмошыным. Наступная сустрэча адбудзецца ў Расіі.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ У КАМЕРЦЫЙНЫХ БАНКАХ І АФІЦЫЙНЫ КУРС, УСТАНОЎЛЕНЫ НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКАМ НА 5 КАСТРЫЧНІКА 1998 г. (па стану на 15.00)

| Назва банка | USD | | DM | | RUR | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| Мінск (017) | | | | | | | |
| «Славнефтебанк» | 73900 | 74000 | 45060 | 45120 | 4000 | 4570 | 222-0750 |
| Белбізнесбанк (гал. апер. упр.) | 73700 | 74000 | 44500 | 45080 | 4500 | 4560 | 276-9531 |
| Тэхнабанк | 73000 | 74000 | 44500 | 45000 | 4360 | 4560 | 283-1500 |
| Нацыянальны банк РБ афіцыйны курс (курс для безнаяўных разлікаў) | 53600 | | 32740,82 | | 3350 | | Курс на 06.10.1998 |
| Цэнтрабанк Расіі | 15,7944 | | 9,6631 | | | | |

*На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы галаўнога ўпраўлення банка могуць неістотна адрозніваціца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах. Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.*

**Агенцтва ГРАЎЦОВА.**

***Першы выпуск штогадовага даведачнага альманаха «Курсы Нацбанка РБ і Цэнтрабанка РФ» за перыяд з 1990 па 1997 гады можна набыць, пазваніўшы па тэл. (017) 228-59-80.***

## «Прамая лінія» па зямельнаму пытанню

**7 кастрычніка госцем «Звязды» стане старшыня Дзяржаўнага камітэта па зямельных рэсурсах, геадэзіі і картаграфіі Рэспублікі Беларусь Георгій Кузняцоў. Свае пытанні на спрадвечную тэму аб зямлі Вы можаце задаць Георгію Іванавічу ў гэты дзень з 11 да 12 гадзін па тэлефонах 232-38-21 і 232-38-92. Папярэдне звяртайцеся са сваімі праблемамі ў рэдакцыю па тэлефоне 268-27-50.**

## Усміхнёмся!

Адвакат пытае свайго кліента:

— Чаму пасля вызвалення з турмы вы пабілі рэдактара мясцовай газеты?

— Ды я ж прысвоіў усяго пяць тысяч, а ён напісаў у сваёй газеце, што сем. Уяўляеце, якія непрыемнасці я меў ад сваёй жонкі?

## КАПАЕМ БУЛЬБУ. ПАСПЕЦЬ БЫ ДА МАРАЗОЎ

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, на сённяшні дзень у рэспубліцы бульба ўбрана на плошчы больш як 55,8 тысячы гектараў, што складае каля 58 працэнтаў ад засеянага.**

Хутчэй за ўсіх нарыхтоўку «другога хлеба» вядуць гаспадаркі Гродзенскай і Віцебскай абласцей — 78,7 і 74,3 працэнта адпаведна. Дарэчы, на Гродзеншчыне і Брэстчыне самая высокая ўраджайнасць бульбы — 166 і 151 цэнтнер з гектара адпаведна. Сярэдняя ўраджайнасць склала 134,5 цэнтнера з гектара. Усяго па рэспубліцы накапана 751 тысяча тон бульбы. У апошнія дні тэмпы ўборкі з-за дажджоў знізіліся.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ПАЧАЛАСЯ ЎБОРКА ЦУКРОВЫХ БУРАКОЎ

Паводле даных Міністэрства сельскай гаспадаркі і харчавання, у краіне пачалася ўборка цукровых буракоў. На сённяшні дзень убрана каля 1,66 тысячы гектараў, што склала 3,2 працэнта ад засеянага. Трэба заўважыць, што сярэдняя ўраджайнасць зараз склала 282 цэнтнеры з гектара. Па меркаванню спецыялістаў, гэта даволі неблагі вынік, бо ў мінулым годзе на гэты час ураджайнасць цукровых буракоў была толькі 269 цэнтнераў з гектара.

**Сяргей КУРКАЧ.**

*ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...*

## ...НА СТАЛІЧНЫХ ХЛЕБАЗАВОДАХ НЕ ХАПАЕ МУКІ

**Вядома, дэфіцыту хлеба і хлебабулачных вырабаў у мінскіх магазінах няма. Іншая справа, што, мяркуючы па паліцах, асартымент крыху пагоршыўся. Ды і завозяць яго, відаць, у магазіны ўжо ў меншых аб'ёмах, бо нярэдка бліжэй да вечара набыць батон ці бохан чорнага хлеба становіцца ўсё больш праблематычным. І прадаўцы, і пакупнікі пачалі гаварыць аб тым, што на хлебазаводах не хапае мукі. Магчыма, гэтаму паспрыялі і аб'явы, прымацаваныя ў многіх аддзелах: нормы водпуску хлеба (уключаючы батон) — два кілаграмы ў адны рукі, белабулачных вырабаў — адзін.**

На хлебазаводзе №1, куды мы звярнуліся па неабходную інфармацыю, даваць нейкія каментарыі на гэты конт катэгарычна адмовіліся. Маўляў, у нас ёсць вышэйшае кіраўніцтва, і ўвогуле — пастаўкамі мукі займаецца «Мінскхлебпрам».

Генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання Юрый Сцяпенка на пытанне карэспандэнта «Звязды» заявіў, што пастаўкі мукі на хлебазаводы ідуць у ранейшых аб'ёмах, ніякіх скарачэнняў не было. Сцвярджае Юрый Аляксандравіч, што і асартымент хлеба і хлебабулачных вырабаў трымаецца на ранейшым узроўні. Пэўныя перабоі, калі, скажам, увечары ўжо нельга набыць той жа батон, тлумачацца, хутчэй за ўсё, узросшым спажываннем хлеба за апошні час. Вядома, гэта не той прадукт, які можна назапасіць на доўгі час, ды і жывёле яго зараз шмат не накупляешся. А чаму сталі больш есці хлеба, здагадацца няцяжка. Па словах Юрыя Сцяпенкі, за апошні час спажыванне хлеба і хлебабулачных вырабаў павялічылася на 10 працэнтаў.

Шмат нараканняў на якасць гэтай прадукцыі, людзі скардзяцца, што і нясмачны стаў хлеб, і захоўваецца дрэнна, і батоны нейкія шэрыя. Генеральны дырэктар «Мінскхлебпрама» так пракаменціраваў скаргі спажыўцоў: працаваць даводзіцца на айчыннай муцэ, той, якую пастаўляюць, а якасць яе і выдаюць тыя ж батоны. Адносна цэн Юрый Аляксандравіч гаварыць нешта адмовіўся, параіўшы пераадрасаваць гэтае пытанне ў Камітэт цэн.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**



# Горш, чым сям'я, але лепей, чым інтэрнат

***Карэспандэнт «Звязды» наведаў «Дзіцячую вёску»***

***Іх гісторыя пачалася амаль паўстагоддзя таму — у пасляваенным 1949 годзе нікому невядомы аўстрыйскі ўрач Герман Гмаер разам з сябрамі вырашыў абысці з конаўкай свой родны горад Імст і папрасіць кожнага яго жыхара ахвяраваць па аднаму шылінгу на дапамогу дзецям-сіротам. Пастунова шылінгаў аказалася столькі, што іх хапіла на пакупку невялікай хаткі, у якой былі сабраны бяздомныя дзеці з нанятай маці-выхавальніцай. Так у Імсце паўстала першая ў свеце «SOS-Кіндэрдорф», або, кажучы інакш, — «Дзіцячая вёска». У Беларусі «Дзіцячая вёска» з'явілася ў 1995 годзе пад Бараўлянамі.***

### ДА ЗВЫЧАЙНАГА ЖЫЦЦЯ

Ідэя «Дзіцячай вёскі» надзвычай простая. Будуецца дом, у яго запрашаецца маці-выхавальніца, якая «набірае» сабе 7-8 дзяцей-сірот. Далей усе жывуць адной сям'ёй. У прамым сэнсе гэтага слова. Апроч асобнага дома, сям'я ў гэтай вёсцы мае сваю мэблю, халадзільнік, тэлевізар, пыласос, посуд, нарэшце, адзіны бюджэт. Ён складаецца з так званых «апякунскіх грошай» (каля 2,5 мільёна на кожнае дзіця) і заробку маці. Усімі сродкамі сям'я распараджаецца па ўласнаму жаданню, аднак кантроль за ўсімі выдаткамі абавязковы — для гэтага кожная маці вядзе спецыяльны сшытак, у якім штодня робяцца запісы, што давялося купіць і колькі гэта каштавала. Як правіла, больш за палову сямейнага бюджэту ідзе на харчаванне. Затым у спісе выдаткаў адзенне, аплата дзіцячага садка, цацкі, кніжкі, лекі.

— Мэта падобных устаноў ва ўсім свеце, — расказвае дырэктар бараўлянскай «Дзіцячай вёскі» Валерый Міхалевіч, — максімальна наблізіцца да ўмоў нармальнай сям'і. Адсюль і галоўнае адрозненне ад інтэрнатаў, пасля якіх дзеці часта не могуць зрабіць нават такіх, здавалася б, элементарных рэчаў, як прыбіць цвік або прыгатаваць яешню. У нас жа дзеці не толькі дапамагаюць сваёй маці-выхавальніцы зварыць абед, памыць бялізну, прыбраць, але і наведваюць звычайную сярэднюю школу, дзіцячы садок, гурткі па інтарэсах. Са згоды маці дзіцяці дазваляецца пакідаць тэрыторыю вёскі, а таксама запрашаць да сябе сяброў-аднагодкаў з пасёлка. Такім чынам, як бы «паралельна» ідзе адаптацыя нашых гадаванцаў да рэальнага жыцця.

### МАЦІ, ЦЁТКА, ТАТА

Зараз вёска — гэта 13 домікаў і 92 дзіцяці. У кожным з домікаў гаспадарыць маці-выхавальніца, якая, згодна з умовамі кантракту, абавязана жыць тут стала. Выключэнне складае хіба што адпачынак — на гэты час маці падмяняе «цётка» або памочнік маці. Узрост выхавальнікаў вагаецца ад 30 да 49 гадоў. Зарплата «маці» каля сямі, а «цёткі» — каля шасці мільёнаў рублёў.

Каб стаць маці, трэба прайсці даволі жорсткі адбор — першапачатковы «конкурс» аказаўся больш дзесяці чалавек на месца. Заключны этап адбору — субяседаванне і трохмесячныя курсы педагогікі, псіхалогіі, медыцыны, рэлігіязнаўства. Толькі пасля гэтага заключаецца працоўная дамова, прычым першыя два гады з'яўляюцца выпрабавальным тэрмінам. Потым кантракт аўтаматычна становіцца бестэрміновым, хаця скасаваць яго можна практычна ў любы момант па ініцыятыве як самой маці, так і адміністрацыі вёскі. Праўда, у апошнім выпадку павінна існаваць важкая падстава — нейкі грубы ўчынак у адносінах да дзіцяці.

Паводле агульнапрынятай у свеце практыкі, маці мусіць як бы паступова «выпусціць» усю сваю сям'ю, таму, пакуль у доме застаецца хаця б адно дзіця, набіраць новых яна не мае права. Лічыцца, што ў ідэале, час, калі дом пакідае апошняе дзіця, павінен супасці з пенсійным узростам жанчыны. У такім разе маці атрымлівае тыповую дзяржаўную пенсію без якіх-небудзь ільгот і з'язджае з вёскі. Калі ж пасля выпуску ўсёй сям'і маці мае ўзрост, скажам, 45 ці 50 гадоў, то ёй, па жаданню, даецца магчымасць набраць новых дзяцей і працягнуць працу.

— Ці праўда, што маці-выхавальніцам нельга мець уласных дзяцей і браць шлюб? — зноў пытанне да дырэктара вёскі.

— Некаторыя нашы маці маюць уласных дзяцей — гэта адказ на першае пытанне. Што да шлюбу, то мы не можам забараніць жанчыне выходзіць замуж. Іншая справа, ці знойдзецца калі-небудзь смелы мужчына, які адважыцца жыць разам з жонкай у вёсцы і выхоўваць такую вось сям'ю?

Між тым, як перакананы Валерый Міхалевіч, адзіны недахоп падобнай сістэмы выхавання — якраз адсутнасць мужчынскага прыкладу. Зрэшты, «прадугледзець» тату нельга — гэта амаль тое ж, што штучна стварыць шлюбную пару. Таму, па правілах, мужчынскім прыкладам у выхаванні павінен быць перш-наперш сам дырэктар вёскі.

### «... І ХАЦЯ Б НЕЙКІЯ ПЕРСПЕКТЫВЫ»

Усіх дзяцей у сям'ю падбірае ў дамах-інтэрнатах непасрэдна маці. Узрост вялікага значэння не мае і, да прыкладу, самай малодшай дзяўчынцы, якая трапіла ў вёску, было ўсяго 11 месяцаў, самай старэйшай ужо споўнілася 16 гадоў. Умова выбару па сутнасці адна: паколькі вёска не ў стане аказваць сацыяльныя паслугі, дзеці не павінны мець сур'ёзных адхіленняў у здароўі.

Адметна, што амаль дзве трэці ўсіх цяперашніх жыхароў вёскі з'яўляюцца «сацыяльнымі сіротамі» або сіротамі пры жывых бацьках. Дарэчы, выпадкі, калі сапраўдныя бацькі наведваліся ў «Дзіцячую вёску», здараліся, аднак тут гэтыя кантакты імкнуцца абмяжоўваць.

— Мы не ўтойваем ад дзяцей іх паходжанне, але кожны наведвальнік мусіць з'яўляцца цвярозым і паводзіць сябе прыстойна, — тлумачыць дырэктар Валерый Міхалевіч.

— А ці будзе магчымасць наведваць вёску ў яе былых гадаванцаў?

— Больш таго: дзіця можа жыць у сваёй «сям'і» аж пакуль не скончыць ПТВ, тэхнікум ці ВНУ.

— А потым?

— Потым колькі заўгодна можна прыходзіць у госці, але жыць усё ж прыйдзецца асобна. Так, некаторыя з былых жыхароў вёскі будуць жыць у тых кватэрах, з якіх яны трапілі да нас. Іншым, хто жылля не мае, мы паспрабуем дапамагчы пабудавацца. Адкрыю маленькі сакрэт: у кожнага з нашых дзяцей ёсць асабісты рахунак у банку. Нумары рахункаў можна адшукаць у Інтэрнэце, таму калі-нікалі на іх пералічваюцца добраахвотныя ахвяраванні з усяго свету. У асноўным гэта сумы ў некалькі дзесяткаў долараў, але, мяркую, да паўналецця на той жа першы ўзнос на будаўніцтва назбіраецца.

— Але ці не занадта смелы прагноз?

— Тут няма нічога звышнатуральнага. Яны такія ж дзеці, а таму маюць права на дом, сям'ю, а таксама хаця б на нейкія перспектывы ў будучым.

**Сяргей ГРЫБ.**
**Фота Віктара ЗАЙКОЎСКАГА.**





**Суботнім ранкам з пяці гадзін Кастрычніцкая плошча горада Мінска пачала запаўняцца людзьмі — адчыняўся кірмаш. Мінчукам была добрая магчымасць папоўніць зімовыя запасы агароднінай ды іншымі прысмакамі па разумных цэнах.**

**Бойкі гандаль спыніўся, калі ўжо сцямнела.**

**Фота Максіма МАЛІНОЎСКАГА.**

## ШАМПАНСКАЕ ЗНОЎ У ПРОДАЖЫ

**Завод шампанскіх він аднавіў у былым аб'ёме пастаўкі ў гандлёвую сетку краіны славутага «Савецкага шампанскага» паведамілі карэспандэнту «Звязды» на прадпрыемстве.**

Нагадаем: з месяц таму склалася сітуацыя, калі з-за праблемы цэнаўтварэння (выдаткі на сыравіну павялічваліся, а рост цэн на канчатковую прадукцыю быў абмежаваны двума працэнтамі ў месяц, што вяло да страты заводам на кожнай бутэльцы шыпучага напою 6 тысяч рублёў) гандаль пэўны час рэалізоўваў рэшткі старых запасаў шампанскага. Як паведамілі на заводзе, Камітэт цэн Мінэканомікі даў дазвол узняць цэны на шампанскае. Гэтае рашэнне хаця і насіла аднаразовы характар, аднак дазволіла прадпрыемству вярнуцца хаця б на нейкі час да нармальнай працы. У магазінах шампанскае пакупнікі могуць набыць зараз амаль па 200 тысяч рублёў за бутэльку.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# ПЕНСІІ Ў КАСТРЫЧНІКУ

**Як вядома, у сувязі з павелічэннем мінімальнай заработнай платы з 250.000 да 350.000 рублёў у кастрычніку 1998 года будуць пераразлічаны памеры мінімальных і сацыяльных пенсій. Памер мінімальнай пенсіі (пры стажы 25 гадоў у мужчын і 20 гадоў у жанчын без надбавак і павышэнняў) у кастрычніку 1998 года складзе 1.050.000 рублёў (525.000 рублёў — мінімальная пенсія + 525.000 рублёў — пастаянная 100-працэнтная даплата, устаноўленая пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 17 кастрычніка 1997 г.). У параўнанні з памерам такой пенсіі ў папярэднім месяцы рост у кастрычніку складзе 16,6 працэнта.**

Павялічацца таксама прадугледжаныя заканадаўствам надбаўкі і павышэнні пенсій, таму што іх памеры ўвязаны з велічынёй мінімальнай пенсіі па ўзросту. Напрыклад, размер павышэння пенсіі ўдзельніку вайны павялічыцца з 375.000 рублёў да 525.000 рублёў, узнагароджанаму працаўніку тылу — са 150.000 рублёў да 210.000 рублёў і г.д.

Пераразлік працоўных пенсій робіцца ў сувязі з ростам сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у рэспубліцы больш чым на 15 працэнтаў (артыкул 70 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні»). Паводле даных Міністэрства статыстыкі Рэспублікі Беларусь, сярэдняя заработная плата рабочых і служачых у рэспубліцы ў жніўні гэтага года склала 4.682.736 рублёў і перавысіла яе велічыню за май 1998 года, якая выкарыстоўвалася ў папярэднім пераразліку пенсій, на 14,6 працэнта.

Улічваючы, што апошні пераразлік працоўных пенсій адбыўся ў ліпені сёлетняга года, а крызіс на фінансавым і валютным рынках Расійскай Федэрацыі аказвае негатыўны ўплыў на спажывецкі рынак Рэспублікі Беларусь і рост цэн, Міністэрства сацыяльнай абароны Рэспублікі Беларусь з мэтай узмацнення сацыяльнай падтрымкі пенсіянераў звярнулася з прапановай ва ўрад рэспублікі аб пераразліку працоўных пенсій з выкарыстаннем сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых за жнівень гэтага года.

24 верасня 1998 г. Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь прынята пастанова № 1480 «Аб пераразліку пенсій у кастрычніку 1998 года». Згодна з названай пастановай урада пры назначэнні і пераразліку пенсій у кастрычніку выкарыстоўваецца сярэдняя заработная плата рабочых і служачых за жнівень сёлетняга года — 4.682.736 рублёў.

Механізм разліку заработку для налічэння пенсіі не змяніўся. У адпаведнасці з артыкулам 56 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб пенсійным забеспячэнні» пры налічэнні пенсіі ўлічваецца адпаведная велічыня заработку пенсіянера ад 130 працэнтаў сярэдняй заработнай платы рабочых і служачых у рэспубліцы, вызначанай па правілах указанага артыкула. Максімальны (абмежаваны) заработак для вылічэння пенсіі (пры індывідуальным каэфіцыенце заработку пенсіянера 1,3 і больш) у кастрычніку складае 3.348.156 рублёў.

Памер пенсіі пры стажы 45 гадоў у мужчын і 40 гадоў у жанчын і індывідуальным каэфіцыенце заработку 1,3 і больш (без уліку надбавак і павышэнняў) складзе ў кастрычніку 2.511.100 рублёў, што перавышае памер такой пенсіі ў верасні на 14,6 працэнта.

Памер пенсіі кожнага пенсіянера вызначаецца ў залежнасці ад яго асабістага працоўнага ўкладу ў мінулым. Пры гэтым пад увагу бярэцца як працоўны стаж пенсіянера, так і яго фактычны заработак, атрымліваемы да выхаду на пенсію.

Рост пенсій у кастрычніку 1998 года ў сярэднім складзе 15,3 працэнта. Дадатковыя (у параўнанні з папярэднім месяцам) расходы Фонду сацыяльнай абароны насельніцтва Рэспублікі Беларусь на выплату пенсій у кастрычніку складуць 720 млрд. руб., у тым ліку 590 млрд. руб. у сувязі з пераразлікам працоўных пенсій.

**Валянціна КАРАЛЁВА,**
**намеснік начальніка ўпраўлення пенсійнага забеспячэння Мінсацабароны.**

# ЛУНІНЕЧЧЫНА:
# ПАРТРЭТ У ІНТЭР'ЕРЫ СТАТЫСТЫКІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Па гэтай прычыне стабільная работа суб'ектаў гаспадарання мае важнае значэнне, паколькі менавіта ад іх залежыць рэальны памер бюджэту раёна, а значыць, залежыць як дабрабыт працуючых, так і становішча непрацаздольных людзей. Але адначасова з аптымістычнымі паказчыкамі ў цэлым па раёну існуюць і падставы для не вельмі прыемных высноў. Так, рост усіх макраэканамічных паказчыкаў за восем месяцаў у цэлым па Лунінеччыне ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года яшчэ не дазваляе сказаць, што гаспадарка раёна выйшла з крызісу і нарошчвае тэмпы вытворчасці.

Калі апусціцца на мікраўзровень і прааналізаваць дзейнасць асобных прадпрыемстваў, то гэта становіцца цалкам відавочным. Разам з тым, што аб'ём выпушчанай прадукцыі ў супастаўных цэнах за студзень—жнівень павялічыўся на 15,2 працэнта ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, а прадпрыемствамі ў цэлым за паўгода атрымана 70 млрд. рублёў балансавага прыбытку, па выніках першай паловы года агульная сума страт, дапушчаных некаторымі суб'ектамі гаспадарання, склала 12,3 млрд. рублёў. А рэнтабельнасць павялічылі толькі пяць з шаснаццаці прамысловых прадпрыемстваў раёна.

Спецыфічныя даныя статыстыкі тлумачацца тым, што вельмі моцна на эканамічнае жыццё Лунінеччыны ўплывае такі гігант, як дзяржаўнае прадпрыемства «Граніт». На сённяшні дзень яно дае львіную долю паступленняў у бюджэт раёна. «Граніт» з'яўляецца самым буйным прадпрыемствам: на ім налічваецца 2409 працуючых. (У раёне яшчэ толькі два прадпрыемствы маюць колькасць работнікаў, большую за тысячу чалавек: завод «Палессеэлектрамаш» (1916) і аб'яднанне «Лунінецлес» (1277); 1563 чалавекі працуюць у калгасе «Расія».) Таму ад сітуацыі на «Граніце» непасрэдна залежыць і становішча ў раёне.

Напрыклад, у жніўні сярэдні заробак на Лунінеччыне склаў 3.759.100 рублёў. Несумненна, такая лічба атрымалася толькі таму, што на «Граніце» ён быў роўны 10.220.800 рублёў. Бо на прадпрыемствах бытавога абслугоўвання сярэдняя зарплата не перавышала 1,3—1,6 млн. рублёў. Сярэдняя!

А самымі непрывабнымі галінамі застаюцца сельская гаспадарка, адукацыя, культура і навука, дзе сярэдняя зарплата не перавышае двух з паловай мільёнаў рублёў. Прынамсі, паколькі значная частка людзей працуе ў сельскай гаспадарцы, то гэтая галіна патрабуе асаблівай увагі. Так, у Лунінецкім раёне найбольшую зарплату атрымліваюць працаўнікі калгаса-камбіната «Крыніца», дзе спецыялізуюцца на вырошчванні агародніны, — у сярэднім 3 млн. 221 тысячу, самую малую — калгасе «Рассвет» — 1 млн. 561 тысячу рублёў. Але гэта згодна з паперамі. На справе многія сельскагаспадарчыя прадпрыемствы яшчэ не разлічыліся са сваімі людзьмі за папярэднія месяцы. Мяркуйце самі: калі на 25 жніўня агульная запазычанасць па зарплаце ў раёне складала 25.492 млн. рублёў, то на долю калгасаў прыпадала 18.552 млн. рублёў. А гэта 73 працэнты.

Такім чынам, Лунінеччына перажывае эканамічныя праблемы, характэрныя для ўсёй краіны. Зразумела, дадатковыя выпрабаванні на яе кінуў Чарнобыль, а сёлета — яшчэ і надвор'е падвяло. Таму бываюць моманты, калі людзям хочацца паддацца эмоцыям і выгаварыцца, нават выкрычацца, — такое нярэдка здаралася падчас «выязной прыёмнай». Але нават у гэтых умовах яны не апускаюць рукі і разлічваюць у першую чаргу на сябе. Пра гэта сведчыць хаця б тое, што сёлета тут упершыню адзначаны звычайны прырост насельніцтва: нарадзілася больш, чым памерла. Ды і шлюбаў было зарэгістравана сёлета больш, чым летась.

У 1964 годзе на прывакзальнай плошчы ў Лунінцы быў устаноўлены незвычайны для гэтай мясцовасці помнік у гонар асваення космасу. Як пішуць даведнікі, «алегарычная скульптура жанчыны адлюстроўвае імкненне да палёту». Магчыма, калісьці, у часы першых поспехаў савецкай дзяржавы ў справе асваення не толькі палескіх балот, але і касмічнай прасторы, гэтая тэма была актуальнай і тут. Сёння ж жанчына са спадарожнікам выглядае крыху недарэчна, нібы іншапланецянка з іншай цывілізацыі. Аднак палешукі з характэрнай для іх дбайнасцю наглядаюць за помнікам і шануюць яго. Магчыма, цяпер гэтая жанчына з'яўляецца для іх проста помнікам былым часам.

І, як сведчыць жыццё, яны, па натуры людзі вельмі прыземленыя, бясконца ўлюбёныя ў свой край, зорак з неба не хапаюць ды і, мабыць, не надта імкнуцца да даляў завоблачных. Палешукі жывуць днём сённяшнім, хочуць захаваць непаўторнасць свайго краю, зрабіць яго яшчэ больш прыгожым і багатым, пакінуць яго такім для сваіх нашчадкаў. Яны вераць у лепшы лёс сваёй малой радзімы.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# ПАМІЖ
# БЕЛАРУСК

ДАВЕДКА «

***Лунінецкі раён размешчаны на ўсходзе Брэсцкай вобласц***
***чалавек (па стану на 1 студзеня 1998 года). Цэнтр — г. Луні***
***Працякаюць рака Прыпяць з прытокамі Случ, Лань, Смер***
***плошчы заняты лесам. На тэрыторыі раёна адкрыта і рас***
***граніту.***
***Лунінецкі раён утвораны 15.01.1940 года, канчаткова с***
***налічвалася 11 сельсаветаў і Мікашэвіцкі пасялковы Савет. Д***
***і 6 музычных школ, дзіцяча-юнацкая спартыўная школа, ліц***
***50 бібліятэк. У галіне аховы здароўя працуюць каля 50 ба***
***аддзяленняў сувязі.***

# МЕДЫЦЫНА: ЛЯЧЫЦЬ У
# НЕ БУДЗЕ КАМУ... ЦІ З

**«ВЫЯЗНАЯ ПРЫЁМНАЯ» «ЗВЯЗДЫ» ПРАКТЫЧНА НА ЎСІХ СУСТРЭЧАХ З НАСЕЛЬНІЦТВАМ У ЛУНІНЕЦКІМ РАЁНЕ СУТЫКАЛАСЯ З ТЫМІ ЦІ ІНШЫМІ ПРАБЛЕМАМІ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ. СЯРОД ІХ БЫЛІ ЯК ХАРАКТЭРНЫЯ ДЛЯ ЎСЁЙ БЕЛАРУСІ (ДЭФІЦЫТ НЕКАТОРЫХ ЛЕКАЎ), ТАК І СПЕЦЫФІЧНЫЯ.**

Лунінецкі раён, як і многія іншыя раёны Палесся, пацярпеў ад аварыі на ЧАЭС. Умоўна (па ўзроўню забруджвання) яго можна падзяліць на дзве часткі: зону з правам свабоднага адсялення (ад 5 да 15 кюры) і зону з перыядычным радыяцыйным кантролем (ад 1 да 4 кюры). Часта атрымліваецца так, што дзве суседнія вёскі, якія знаходзяцца на адлегласці ў некалькі кіламетраў, трапляюць па розныя бакі радыяцыйнай мяжы. Іх жыхары разам працуюць, дзеці вучацца ў адной школе... Аднак людзі маюць розныя льготы, у тым ліку і на аздараўленне. Падрабязней спынімся на дзецях, бо, як паказала наша паездка, больш за ўсіх церпяць менавіта яны. Дык вось, тыя хлопчыкі і дзяўчынкі, што жывуць у забруджанай зоне, атрымліваюць бясплатныя абеды ў школе, часцей за сваіх суседзяў атрымліваюць гуманітарныя вітаміны, — два разы на год вывозяцца на аздараўленне... Парадокс, але больш хварэюць дзеці з зоны з перыядычным кантролем. Іх бацькі, некаторыя нават са слязамі на вачах, імкнуліся знайсці справядлівасць. У адказ толькі сухія фармулёўкі законаў, актаў, палажэнняў.

Другая вялікая медыцынская праблема раёна — незабяспечанасць урачамі. У вёсцы Міжлессе, дзе вяла прыём «Звязда», больш за 400 дзяцей ва ўзросце да 15 гадоў і... ніводнага ўрача. Прыходзіцца звяртацца да суседзяў у Чырвоную Волю ці ў райцэнтр. Па сведчанню адной з жанчын, быў выпадак, калі яе дачку там проста не прынялі, маўляў, ты не наша. Падобная сітуацыя з кадрамі і ў вёсцы Вялікія Чучавічы. Вёска вялікая — мае нават сваю ўчастковую бальніцу і... аж аднаго ўрача замест чатырох па штатнаму раскладу. Практычна жанчына (доктар там жанчына) абслугоўвае каля 7 тысяч чалавек. Нагрузка каласальная. Па сведчанню аднавяскоўцаў, і яна ўжо ў цяжкія хвіліны не аднойчы абяцала звольніцца. Не хапае спецыялістаў і ў горадзе. Прычына банальная — не жадаюць маладыя медыкі ехаць у забруджаную і не вельмі зону. А пад канвоем іх не прыгоніш. Толькі сёлета з 12 выпускнікоў медінстытутаў, якіх размеркавалі ў Лунінецкі раён, даехалі чатыры. Хто па дарозе «згубіўся», хто ў дэкрэт пайшоў, хто адмацаванне ўзяў (спецыялістаў нестае, а адмацаванне ўсё ж далі?!).

Цяжка і з медыкаментамі. Перыядычна раённая бальніца трапляе ў становішча даўжніка. Лекі толькі для аказання экстраннай дапамогі, вакцынацыі дзяцей. Часам прыходзіцца адкладваць планавыя аперацыі. Медыкаменты некаторых фармакалагічных груп нельга атрымаць нават на абласным складзе (генеральны дырэктар «Фармацыі» пераконвала, што ўсе фармакалагічныя групы прадстаўлены хаця б адным-двума прэпаратамі).

Не абышла раён і «модная» праблема — наркаманія. Найбольш выразна яна праявілася ў пасёлку Мікашэвічы. Насельніцтва Мікашэвіч — каля 15 тысяч жыхароў. Большасць з іх працуюць на прадпрыемстве «Граніт» — адным

# НАЙПЕРШЫ КЛОПАТ ПАЛЕШУКОЎ — ЗЯМЛЯ

На прыём да «Звязды», які быў наладжаны ў Міжлессі, суседняя вёска Брадніца прыслала свайго прадстаўніка — пенсіянерку Нікіліну. Прыйшла яна як з крыўдамі аднавяскоўцаў, так і з імкненнем пра іншых людзей паклапаціцца. У Брадніцы вялікі статак прыватных кароў. Малако, мяса здаюць дзяржаве. Аднак выдалі людзям колькі часу назад даведку, відаць, у санстанцыі, што іх малако «нельга ўжываць у ежу». Разам з тым адмовіліся прымаць кароў (мяса раней прымалі ў Пінску). Апынуліся жыхары Брадніцы ў даволі непрыемнай сітуацыі.

Як высветлілася, мясцовае кіраўніцтва ў курсе праблем гэтых людзей, і сёе-тое ўжо зроблена. Па-першае, малако ў жыхароў вёскі ўжо прымаюць, аднак робіцца гэта пад кантролем санстанцыі. Каб выправіць «радыяцыйны фон» рагуль, усе яны на зіму забяспечваюцца «чыстым» сенам. Вырашылі праблему і са здачай кароў на мяса — скупляць іх будзе мясцовая гаспадарка (разлік на працягу месяца) ці абменьваць на цельны маладняк.

Бяда Марыі Крышны аказалася больш празаічнай. Саўгас выдзеліў участак зямлі. Яе сям'я 20 сотак засеяла буракамі. Калі гаспадарка праводзіла апрацоўку морквы, што расла побач, усе буракі загінулі. Пайшла да кіраўніцтва саўгаса — сказалі падавай у суд. Экспертыза пацвердзіла, што буракі загінулі ад хімікатаў. Прызнаць прызналі, але нічога не змянілася. Карміць хатнюю жывёлу сям'і саўгасніцы няма чым. Дапамог жанчыне, а калі быць дакладным — аднавіў справядлівасць, начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі і харчавання Лунінецкага райвыканкама Васіль Ермаковіч. Дырэктару саўгаса было прапанавана на працягу тыдня вярнуць сярэдні ўраджай караняплодаў па гаспадарцы з разліку 20 сотак. Сапраўды, калі вінаваты аграном — нешта не так разлічыў — няхай ён і нясе адказнасць. Радавыя саўгаснікі цярпець ад гэтага не павінны.

Пытанне, якое ўзнялі на сустрэчы «выязной прыёмнай» «Звязды» ў вёсцы Вялікія Чучавічы яе жыхары, аказалася актуальным для многіх прыватных гаспадарак раёна. З-за праліўных дажджоў загінуў ураджай. Як у такой сітуацыі перазімаваць, дзе ўзяць насенне на наступны год?

Як паведамілі спецыялісты, на Брэсцкую вобласць ужо выдаткавана 78 мільярдаў рублёў кампенсацыі. Колькі прыйдзе ў Лунінецкі раён — невядома. Паводле папярэдніх даных, у раёне ад паводкі пацярпелі 11 тысяч сем'яў. Каму аказваць матэрыяльную дапамогу і ў якім памеры, будуць вырашаць спецыяльныя камісіі, што ствараюцца пры сельсаветах. Хутчэй за ўсё, дапамога будзе аказвацца сельгаспрадукцыяй.

# ЛОБЧА. ЛАБЧАНЕ. «ЛАБЧАНКА»

**Чалавеку, які вырас і нарадзіўся недалёка ад сталіцы, як, напрыклад, аўтарка гэтых радкоў, на Палессі ўсё здаецца экзотыкай. Мова, побыт, звычаі... Мне ж падчас камандзіроўкі па Лунінеччыне наогул пашчасціла трапіць у вёску, якая нават для саміх палешукоў у нечым экзатычная. І мова ў Лобчы свая, «лабэцкая», так нідзе, нават у суседніх паселішчах, не гавораць, і самі лабчане — людзі цікавыя, колькі пра іх па наваколлі баек ды гісторый ходзіць — і габравец, і аўцюковец пазайздросцяць. Вось хаця б гэта, нявыдуманая, пра тое, чаму лабчан «совамі» клічуць (сапраўды клічуць, сама чула). Зусім не таму, што па начах не спяць. Усё было прасцей і весялей...**

«Ішлы раз хлопцы з болота. І грязь топталы посталом, нэ чоботам. Сіна накосілы і пташку ну таку ж хорошу зловілы. В лозі сэдзіла, прама ў душу глэдзіла. Сама лохмата, а вочы лупаты — страшна в рукі взяты. А хочацца ж і другім показаты. От і взялы за крыла, шчоб нэ вкусыла. І самы ішлы бродкамы, а тую сову за крылы велы кладкамы... А назустрыч — о, люды з чужога сэла. Кажуць: «Э, а чаго гэто ў вас у такой пошанэ сова?» У лобчан моіх абсмэялы. І з тых пор нас совамы прозвалы...»

А калі вы, па недасведчанасці сваёй, праязджаючы праз Лобчу на возе, нагамі памахаеце, то вяскоўцы вельмі на вас пакрыўдзяцца, могуць нават кухталёў надаваць...

«Нэколы і ў нас у Лобчы цэркаў стаяла. Самы люды збудовалы — своімы рукамы, за свої грошы. І одэжу бацюшку справілы хорошу. Праўда, навзруст, вэлікovaту, а бацюшка аказаўся куды, маловаты, зато хіжы і зухаваты. Пэршага дня як правіты ў цэркві почаў, то й людэй вучыты стаў. «Шчоб усэ поўтаралы за мною, оно махну головою». А люды і рады навучыцца добрэ богу молыцца. Бацюшка кадылом замахаў, «Отчэ наш» чытаты стаў. А жар з кадыла ў чобот шырокі папаў. Упаў бацюшка до долу, задраў ногі ўгору, стаў нагамы махаты, а люды за ім усэ паўтараты. «Иже еси на небеси...» — попадалы до долу всі. Да нэ ну мужыкі, а й жонкі. Ці то правда була, ці мана? Бо і цэркві тоей вжэ нэма. А всі ж кажуць про нас, шчо як праз сэло чужыя проезжаюць люды, ногамы помахаюць, то лобчанэ бяруць іх за груды, всім сэлом догоняюць...»

Я б магла вам яшчэ расказаць, як у Лобчы парсюка токам забівалі і што з гэтага выйшла, як дзеда Тамаша паміналі, як лабчане і іхнія суседзі, луняне, адзін з аднаго кпяць... Карацей, быў бы ў Лобчы свой Уладзімір Ліпскі — загрымела б аб ёй слава, як і пра Аўцюкі.

Праўда, чаго гэта я пішу «быў бы»? Ёсць у Лобчы свой чалавек, які ўжо зараз мог бы кніжку з «лабэцкімі» гісторыямі ды на «лабэцкай» мове выдаць. Вы ж не падумайце, што за два дні я так тую мову асвоіла, што мясцовыя байкі, з якіх пачынала матэрыял, нават зарыфмаваць змагла. Тут усёй і заслугі маёй, што праслухала ў Мінску касету ды перапісала з яе асцярожна, баючыся ўпусціць хоць адзін гук з той дзіўнай гаворкі. А расказала мне тыя гісторыі ў Лобчы аўтарка зарыфмаваных варыянтаў Настасся Якавец.

Калі сказала Настассі Іванаўне па тэлефоне, што хачу сустрэцца з ёй, пагаварыць, пачула ў адказ пытанне: «А можна, я не адна прыйду?» Яна і праўда прыйшла не адна: у клубе, куды мы прыехалі ўжо надвячоркам, нас чакала ўся «Лабчанка», фальклорны гурт, якім Настасся Якавец кіруе. Кабеты і дзяўчаты ў стракатых палескіх уборах, некалькі маладых хлопцаў, што сціпла стаялі крыху збоку. Сама гаспадыня, гаваркая рухавая жанчына, патлумачыла: «Як жа я без іх? Калі б не «Лабчанка», то й мяне б такой, якая ёсць, не было б...»

Амаль пятнаццаць гадоў таму ў Лобчы мясцовыя функцыянеры ад культуры паспрабавалі для ўдзелу ў раённым аглядзе самадзейнасці сабраць «інтэлігентны» хор. Трапіла ў той хор і Настасся Іванаўна: голас Бог даў, дый працавала на станцыі, не ў калгасе. Песні на агляд павінны былі быць, вядома ж, патрыятычныя, пра партыю і Радзіму. А на вуліцах па вечарах зусім іншыя песні мясцовыя жанкі спявалі: прыгожыя, лірычныя, на сваёй мове... «Вось і сабраліся мы сем чалавек, — успамінае Настасся Іванаўна, — і сталі ў мяне дома спяваць-рэпеціраваць. А потым паехалі на агляд асобна, паказалі ім «Удовушку» — і абышлі нашых «інтэлігентаў», грамату нават атрымалі...»

І стала «Лабчанка» вядомай. Папрыходзілі ў калектыў яшчэ людзі, і старэйшыя, і маладзейшыя. Успаміналі мясцовыя песні, абрады. Пачалі «Лабчанку» на канцэрты запрашаць. І тут убачыла Настасся Іванаўна, што на адных песнях канцэрт не ўтрымаеш, трэба ж нешта і гаварыць. Літаратуры ніякай не было, а калі б і была — навошта браць чужое, калі свайго хапае? Паспрабавала адну гісторыю з лабчанскага жыцця напісаць — спадабалася людзям. Потым яшчэ, яшчэ — тых нявыдуманых гісторый і бацька яе, і мясцовыя бабкі незлічоную колькасць ведаюць, дый сёння жыццё ў вёсцы не стаіць на месцы, толькі заўважай усё ды дзесь у памяці занатоўвай, каб пасля ў вершаваныя радкі перавесці. Чаму рыфмаваць пачала? Ніколі раней вершаў пісаць не спрабавала, неяк само сабой атрымалася. А можа, таму, што мова тут пявучая, сама на рыфму просіцца?

Лабчане, пазнаючы сябе ў тых байках (а Настасся Іванаўна, бывае, і прозвішчы называе), рэдка крыўдзяцца, часцей смяюцца разам з усімі. «А як аднойчы на канцэрце чытала са сцэны сваё «Галашэнне па п'яніцы», то нейкі не зусім цвярозы мужык падышоў да самай сцэны дый галасіць разам са мной. Толькі я іранічна галашу, жартаўліва, а ў яго сапраўдныя слёзы, як боб, коцяцца», — на маё пытанне, як успрымаюць немясцовыя гледачы выступленні «Лабчанкі», адказала Настасся Іванаўна.

А яшчэ жанчына піша песні. Дакладней, тэксты песень. Бярэцца які-небудзь папулярны народны матыў (напрыклад, «У саду гуляла») — пасядзіць Настасся Іванаўна колькі вечароў над паперай — глядзіш, і песня быццам бы тая, ды не тая. Мелодыя знаёмая, а тэкст зусім іншы. Вядома ж, на іхняй, «лабэцкай» мове.

Але гэта зусім не значыць, што ў Лобчы сваіх, спрадвечных песень не хапае. Не раз прыязджалі сюды тэлевізіёншчыкі з Мінска, запісвалі ад «Лабчанкі» для перадачы «Запрашаем на вячоркі» і «запоіны» і «вяселле», і «талаку». **«Раней людзі пра Лобчу толькі і ведалі, што сена ў нас багата (тэле-** і кінааператары чамусьці вельмі ўпадабалі мясцовыя стагі, заўсёды, здымаючы палескія краявіды, сюды прыязджалі. — **А. Л.**), а цяпер вось і нас, людзей, паказваць пачалі», — жартуюць кабеты...

А ім тыя абрады паказаць — зусім не цяжка. Не трэба нешта ўспамінаць, з бабуліных куфэркаў выцягваць. Усё гэта ў Лобчы яшчэ ёсць, тое, што, спрадвеку бачанае і чутае, у многіх мясцінах ужо — напаўзабытае мінулае. А ў Лобчы — свой каляндар, якога прытрымліваюцца ўсе — і старыя, і малыя...

Адразу пасля Вялікадня — «Зравцэм». Маладуха, якая нядаўна нарадзіла дзіця, абавязкова ідзе ў гэты дзень да кабеты, якая гэта дзіця «бабіла», нясе ёй падарунак. Тая бяжыць клікаць суседзяў, збірае на стол... «Не столькі той гарэлкі, колькі песень, прыказак...»

А на другі дзень Тройцы («Труйцы») у Лобчы «водзяць кусту». Жанчыны плятуць вянок з кляновых галінак і робяць «кустай» самую прыкідзістую ды языкастую дзяўчыну. Водзяць яе па вёсцы, заходзяць на падворкі. Вядома ж, не моўчкі, з песнямі, прыказкамі, якіх на гэты выпадак — мноства. Кожны гаспадар чакае, калі ж зойдуць да яго, бо «каго куста мынае, то той хозяін у тым году ўрожаю нэ мае».

А пасля — Купалле. Моладзь вогнішчы кладзе, вянкі пускае, а старэйшыя кабеты «зелля» збіраюць, бо ў гэтую ноч травы найбольшую сілу ад зямлі і неба бяруць.

Пасля Пятра — зажынкі. І хоць жнуць у калгасе камбайны, выходзяць жанчыны на поле з сярпамі, «зажынаюць» першы сноп і —



на стол старшыні: «Ставім сноп на сто коп». І гучаць над вёскай песні. Працяжныя, больш падобныя на галашэнне, якія яшчэ прабабкі, сагнуўшыся над вузенькай палоскай, спявалі...

А пасля Пакрова абавязкова нехта з вяскоўцаў, хто па нейкай прычыне не паспеў управіцца з гаспадаркай, збірае талаку. Зноў — весела, зноў — людна, зноў — песні...

17 снежня ў Лобчы выхадны дзень. Бо — Варвара, прастольнае свята вёскі (на Лунінеччыне кожнае паселішча здаўна мае сваё асобнае прастольнае свята). «От вы прыязджайце да нас на Варвару. Многа новага пачуеце і ўбачыце», — запрасілі мяне лабчане.

**А ў сакавіку ідуць дзяўчаты і маладзіцы гукаць Вясну. І зноў гу-**

36,6°

# ХАЛЕСТЭРЫН. НЕБЯСПЕЧНА ДЛЯ ЖЫЦЦЯ?

**Калі ўзровень вашага халестэрыну хаця б у два разы перавышае норму — інфаркту вам не пазбегнуць...**

***Практычна ва ўсіх развітых краінах свету назіраецца тэндэнцыя да зніжэння смяротнасці ад сардэчна-сасудзістай паталогіі. У нас сітуацыя куды менш аптымістычная — смяротнасць павялічваецца, прычым даволі небяспечна (толькі за перыяд з 1990 па 1996 год — на 18—20 працэнтаў). Прычын гэтага шмат: і экалагічная сітуацыя, і сацыяльна-эканамічнае становішча, і лад жыцця... Існуе цэлы шэраг фактараў рызыкі сардэчна-сасудзістых захворванняў (у першую чаргу ішэмічнай хваробы сэрца, стэнакардыі, інфаркту). Гэта і курэнне, і павышаны ціск, і атлушчэнне, і маларухомы лад жыцця... Аднак адным з самых важных фактараў рызыкі навукоўцы лічаць халестэрын.***

***Карэспандэнт «Звязды» гутарыць з доктарам медыцынскіх навук, галоўным урачом Рэспубліканскага ліпіднага лячэбна-дыягнастычнага цэнтра метабалічнай тэрапіі Эдуардам ДАЦЭНКАМ.***

***ДАВЕДКА «ЗВЯЗДЫ»: Халестэрын — адзін з тлушчаў, які ўваходзіць у склад некаторых органаў чалавека. Без яго наша жыццядзейнасць немагчыма. Аднак павышанае ўтрыманне гэтага рэчыва ў арганізме прыводзіць да атэрасклерозу (перакрыццё сасуда бляшкай), які ў сваю чаргу з'яўляецца прычынай 90—95 працэнтаў інфарктаў.***

**— Эдуард Анатольевіч, растлумачце, калі ласка, якім чынам халестэрын, без якога нашаму арганізму не абысціся, ператвараецца ў смяротнага ворага?**

— Сапраўды, халестэрын — рэчыва двухаблічнае. Яно можа трапляць у арганізм звонку і сінтэзіравацца ў арганізме. З «добрага» халестэрыну сінтэзіруюцца гармоны наднырачнікаў, ён ёсць у жоўці, у сценках клетак... Сам па сабе халестэрын даволі інертны — яго практычна нельга расшчапіць. Таму з арганізму ён можа толькі выводзіцца. Калі арганізм не спраўляецца, халестэрын пачынае ў ім адкладвацца. Самае слабае месца — сасуды. Прасвет звужаецца і як вынік — атэрасклероз, а значыць недахоп кіслароду, пажыўных рэчываў у сэрца.

**— Экс-прэзідэнт Злучаных Штатаў Амерыкі Рональд Рэйган падчас прэзідэнцтва кожныя паўгода паведамляў шырокай грамадскасці свой узровень халестэрыну як доказ добрага здароўя. Якое ўтрыманне гэтага рэчыва адпавядае норме?**

— Нармальнае значэнне — 5,2 мілімоль/літр. Калі гэта лічба нязначна вышэй, то ўжо варта звярнуць увагу на свой лад жыцця, харчаванне. Калі ж утрыманне халестэрыну перавышае 8 мілімоль/літр — патрэбна медыкаментознае лячэнне. Пры ўзроўні 10 мілімоль/літр інфаркту пазбегнуць.

**— Дзе можна памерыць узровень свайго халестэрыну?**

— Кожны чалавек пасля 20 гадоў павінен вымераць свой узровень халестэрыну. У ідэале ён павінен вызначацца ў любой паліклініцы. Справа ў тым, што поўны аналіз прадугледжвае раскладку па чатырох параметрах: агульны халестэрын, халестэрын ліпапратэідаў высокай шчыльнасці, нізкай шчыльнасці і трыгліцырыды. Аднак у сённяшняй эканамічнай сітуацыі ў паліклініках робяць аналіз толькі на агульны халестэрын. Тлумачыцца гэта вельмі проста. Калі ідзе размова пра закупкі пэўных рэактываў, звычайна выбіраюць больш важныя на дадзены момант, напрыклад, на цукар. Натуральна, бо хворы з цукровым дыябетам можа памерці нават у паліклініцы. А ад халестэрыну, калі і памрэ, то не зараз і не тут.

Усё ж можна арыентавацца і па ўзроўню агульнага халестэрыну. У выпадку, калі ён больш за 5,2 мілімоль/літр, трэба рабіць разгорнутую схему. У Мінску гэта робяць у Рэспубліканскім дыягнастычным цэнтры, БелНДІ кардыялогіі, у Віцебску — у нашым цэнтры, займаюцца гэтым і яшчэ ў некаторых буйных гарадах.

**— І раптам аналізы аказаліся не суцяшальнымі...**

— Зноў-такі, калі перавышэнне нязначнае — да 6 мілімоль/літр, дастаткова прытрымлівацца адносна простых рэкамендацый. Дыеты заходніх спецыялістаў з іх анчоусамі і крэветкамі былі б, магчыма, і больш эфектыўнымі, але для нас, на жаль, яны недаступныя. Пры выбары таго ці іншага прадукту, трэба не забывацца на свой халестэрын. Калі гэта мяса, то лепш узяць не тлустую свініну, а ялавічыну. Калі ясце курыцу, трэба зняць шкурачку. Трэба быць асцярожным з курынымі яйкамі. У двух жаўтках утрымліваецца дзённая норма халестэрыну.

Карысна есці зернавы хлеб, хлеб з вотруб'ем. Па магчымасці раз на тыдзень нядрэнна рабіць рыбны дзень. Курэнне, вялікія дозы алкаголю зніжаюць у арганізме ўзровень «добрага» халестэрыну, у той час, як фізічныя практыкаванні дапамагаюць. Размова не ідзе нават пра заняткі фізічнай культурай ці спортам, дастаткова раніцай, напрыклад па дарозе на працу, 1 кіламетр прайсці пешшу.

Асцярожна трэба ставіцца і да так званай хуткай ежы: хотдогаў, гамбургераў, чызбургераў і г. д. Злоўжываць не трэба.

Калі ўзровень халестэрына значна вышэй нормы — трэба звяртацца да доктара. Зноў-такі ў ідэале прызначаць лячэнне, карэкцыю павінен звычайны тэрапеўт. У жыцці далёка не заўсёды так. Па розных прычынах. У першую чаргу гэта звязана з вялізнай нагрузкай урачоў і адсутнасцю ў іх інфармацыі, што рабіць з гэткім хворым. У крайнім выпадку тэрапеўт павінен накіраваць чалавека туды, дзе яму дапамогуць. Зараз распрацоўваюцца праграмы, якія прадугледжваюць наяўнасць пры кардыёдыспансеры ў кожным горадзе ліпіднай групы. У такой сітуацыі вырашэнне халестэрынавых праблем спросціцца. Па Віцебскай вобласці створаны некалькі ліпідных груп, ёсць такія групы ў Гомелі, хутка з'явяцца ў Магілёўскай вобласці.

**— Дзе рыхтуюць спецыялістаў у данай галіне?**

— У нашых медыцынскіх навучальных установах спецыялізацыі ў гэтай галіне няма. Ёсць спецыялізацыі кардыёлаг і тэрапеўт. І ў медінстытутах, і ў Беларускім дзяржаўным інстытуце ўдасканалення ўрачоў праблемы халестэрыну ўзнімаюцца і абмяркоўваюцца. Хаця гадоў 15 назад, калі я заканчваў інстытут, нам гаварылі, што атэрасклероз лячыць нельга. Калі ён ёсць — будзе толькі прагрэсіраваць. Хворы чалавек асуджаны на смерць.

Сёння ўжо ёсць шмат медыкаментозных прэпаратаў, якія дазваляюць карэкціраваць узровень халестэрыну. Праблема ў тым, што яны дастаткова дарагія. На маю думку, спецыялізацыя па гэтаму пытанню ў медінстытутах і не зусім патрэбна. Дастаткова дадатковай постдыпломнай падрыхтоўкі.

**— Хто ў Беларусі займаецца праблемай халестэрыну?**

— У першую чаргу гэтай праблемай займаецца БелНДІ кардыялогіі. Практычным бокам праблемы займаецца наш цэнтр. Як юрыдычная асоба, Рэспубліканскі ліпідны лячэбна-дыягнастычны цэнтр метабалічнай тэрапіі зарэгістраваны дзесьці год назад. Аднак пачынаў ён сваю працу гадоў 10 таму. Спачатку як гарадскі, потым абласны і нарэшце вырас да рэспубліканскага. Самае галоўнае для нас — практычная канкрэтная праца і з хворымі, і з урачамі, і з насельніцтвам. Па нашых даных, людзей з парушэннем ліпіднага абмену дзесьці 40—50 працэнтаў насельніцтва рэспублікі. З іх 10—15 працэнтаў патрабуюць дастаткова энергічнага лячэння.

У наш цэнтр трапляюць людзі рознымі шляхамі. Першы паток — тыя, хто прыйшоў да кардыёлага са скаргамі на сэрца. Тут мы ўжо спазняемся, бо наша задача — прафілактыка хвароб сэрца. Другі паток — людзі, якія прыходзяць да нас на абследаванне. Мы з імі працуем, дапамагаем. Такіх пацыентаў становіцца ўсё больш. Адзін з аптымальных варыянтаў — праца з арганізаванымі кантынгентамі (заводы, фабрыкі, школы і да т. п.). У цэнтры ёсць прыбор, падобны да таго, што бяруць з сабой касманаўты ў палёты — рыфлатрон. Вам праколваюць палец, кропля крыві змяшчаецца на спецыяльную палоску, а яна ў сваю чаргу змяшчаецца ў апарат. Праз 2 хвіліны аналіз халестэрыну гатовы. Такім чынам мы працавалі ў Гомелі, хутка паедзем у Магілёў. Калі ўзнікаюць пытанні, мы робім разгорнуты аналіз і далей працуем з гэтым чалавекам.

Да нас едуць з розных рэгіёнаў. Добра, што цэнтр ведаюць. Аднак у ідэале ўсё гэта павінна вырашацца на месцах. Мы ж будзем займацца нейкімі складанымі выпадкамі, дапамагаць у вырашэнні сур'ёзных праблем. Так наша праца будзе найбольш эфектыўнай.

**Сяргей ПРОТАС,**
*Віцебск.*

# ШАХМАТЫ

**Пад рэдакцыяй майстра спорту Уладзіміра СЫЧОВА**

## ГАДАВЫ КОНКУРС РАШЭННЯЎ

**Заданне № 35**

**К. Відлерт і Х.-П. Рэм (Германія)**



**Белыя:** Kpg3, Фg5, Лb8, Лd1, Cb3, Ce1, Ka3, Ke7; пп: b2, c2, e3, f4 (12). **Чорныя:** Kpc5, Лd7, Cg8, Ka7; пп b5, c6, c7, e2, f5, h7 (10). **Мат за 3 хады.**

**Заданне № 36**

**І. Бондар (Ганцавічы)**

*«Уральский проблемист». II ганаровы водгук.*



**Белыя:** Kpa3, Ch4 (2). **Чорныя:** Kpa1, Kh3, Kh8; п. b2 (4). **Нічыя. Ход чорных.**

## ЗАДАЧЫ І ЭЦЮДЫ — ЛАЎРЭАТЫ КОНКУРСАЎ

Беларускія складальнікі кампазіцый прымаюць актыўны ўдзел у міжнародных конкурсах, а таксама ў конкурсах, праводзімых рознымі часопісамі і газетамі.

Так, задача-шматхадоўка А. Варыцкага з Брэста адзначана II прызам на гадавым конкурсе часопіса «Чэшскі шах» за 1997 г.

**Белыя:** Kpe5, Cf1, Kc5, Kc8; пп: a4, b2, c3, f6, g2, h4 (10). **Чорныя**: Kpa5, Cb3, Cg1, Ka1, Ka8; пп: c6, f2, f7, g3, h5 (10). **Мат за 14 хадоў.**

1... Ka8 ~ 2. Kb7+ Kp:a4 3. Kb6x.

1... Kc2 2. K:b3+ Kp:a4 3. Kc5+ Kpa5 4. b3 ~ 5. Kb7x.

1. Kpf4? Ch2!

1. Kpd6! Ch2 2. Kpe7 Cg1 3. Kpf8 Ch2 4. Kpg8! Cg1 5. Kpg7 Ch2 6. Kph6 Cg1 7. Kpg5 Ch2 8. Kpf4 Cg1 9. Kp:g3 Ch2+ 10. Kp:h2 Kc2 11. K:b3+ Kp:a4 12. Kc5+ Kpa5 13. b3 ~ 14. Kb7x.

Прыводзім таксама два эцюды і задачу-двуххадоўку з конкурсаў 41-га міжнароднага кангрэса шахматных кампазітараў.

**№ 1. І. Бондар (Ганцавічы) і У. Барташ (Мінск). Белыя:** Kpd8, Лg2, Ch3, Ch8; пп a4, b5 (6). **Чорныя:** Kpb7, Лb4, Cd4, Kc3; п. a7 (5) +.

1. Лg4 Cb6+ 2. Kpd7 Л:g4 3. C:g4 K:b5! 4. Cf3+ Kpb8 5. ab a6 6. ba Cd4 7. a7+ C:d4 — пат.

7... C:a7 8. Ce5x.

**№ 2. І. Бондар. Белыя:** Kph4, Ka8, п. d6 (3). **Чорныя:** Kpg2, Ce2, Kb1, п. c7 (4) +.

1. d7 Kd2 2. Kpg5 Ke4+ 3. Kpg6 Ch5+ 4. Kph6! Kd6 5. Kp:h5 Kf7 6. Ke6 Kp~ 7. Kg5!

Абодва эцюды адзначаны пахвальнымі водгукамі.

**Задача-двуххадоўка У. Сычова (Мінск)** таксама адзначана пахвальным водгукам.

**Белыя:** Kph8, Фh1, Лa3, Лc1, Cf8, Cg2, Kd2; пп: b4, f4 (9). **Чорныя:** Kpd4, Лc7, Лg1, Ca8, Kb6, Kh2; пп: a4, d3, e3, g7 (10).

1. Ce4? Лc3! 1. Л1c3? Ce4! 1. Cc6!





**ДА КАЛЯД ЗАСТАЛОСЯ РОЎНА ТРЫ МЕСЯЦЫ. РЫХТУЙЦЕСЯ!**

Такі, на першы погляд, заўчасны заклік поўнасцю падзяляюць жанчыны-майстрыхі з гродзенскага гуртка мастацкага вышывання, які створаны пры мясцовым гісторыка-краязнаўчым музеі. Як бачыце, калядная тэма ў творах былой выкладчыцы музыкі Жанны Раманаўны Бакурскай прадстаўлена вельмі ўдала. Падрыхтоўка да Каляд ідзе поўным ходам.

**Яўген ПЯСЕЦКІ.**

*XXXIII Сусветная шахматная Алімпіяда*

# БЕЛАРУСЫ — У ГРУПЕ МАЦНЕЙШЫХ

У Элісце працягваецца XXXIII Сусветная шахматная Алімпіяда, у якой удзельнічаюць 110 мужчынскіх і 72 жаночыя каманды свету. Зборная Беларусі выступае ў наступным саставе: мужчыны — Аляксей Фёдараў, Аляксей Аляксандраў, Юрый Шульман, Віктар Купрэйчык, Вячаслаў Дыдышка, Герман Качаткоў; жанчыны — Раіса Эйдэльсон, Генрыета Лагвілава, Таццяна Загорская, Анастасія Сарокіна.

У трэцім туры наша «моцная» палавіна гуляла з другой камандай Расіі. Сустрэча завяршылася ўнічыю — 2:2.

Учора беларусы сустракаліся з індыйцамі. Пакуль у мужчынскім турніры з 10 ачкамі лідзіравалі амерыканцы. На адзін бал менш было ў каманд Украіны, Германіі, Эстоніі, Кітая, Аргенціны і Малдовы. Беларусы з 8 ачкамі займалі месца ў першай дваццатцы.

Прыкладна з такім жа поспехам праходзяць алімпійскую шахматную дыстанцыю і нашы жанчыны. Абыграўшы ў трэцім туры 2,5:0,5 амерыканак, беларускі набралі 6,5 ачка і замыкаюць разам з саперніцамі з Расіі, Іспаніі і Ізраіля дзесятку мацнейшых. Лідзіруюць тут пакуль тры зборныя: Югаславіі, Арменіі і В'етнама. У іх — па 9 ачкоў. Дарэчы, шахматысткі з усходне-азіяцкай рэспублікі ў трэцім туры паднеслі сюрпрыз, абыграўшы з «сухім» лікам 3:0 моцную зборную Грузіі.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

**ЗАСНАВАЛЬНІКІ:**
**Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100.530. Індэкс 63850.
Зак. № 5871.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12